# Ніва XV

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (783) ГОД XVI БЕЛАСТОК 28 ЛЮТАГА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

## НАШ РУХ

Здаецца, было гэта зусім нядаўна. Яшчэ выразна стаіць у памяці той лютаўскі дзень, калі ў Беласток з'ехаліся прадстаўнікі беларускага насельніцтва ў Польшчы, каб стварыць сваю арганізацыю — Беларускае грамадска-культурнае таварыства.

26 лютага 1956 года адкрылася ў нашым жыцці новая старонка. Ад нас залежала, як яе запішам.

Цяпер у ёй адлюстравана пятнаццаць год нашых пошукаў і імкненняў, бляскаў і ценяў, узлётаў і няўдач, звычайнай крапатлівай штодзённай працы. І сёння смела можам сказаць: почырк наш упэўнены і пакідае трывалы след на новым абліччы нашай роднай зямлі.

Дзейнасць БГКТ шматбаковая. І якую б галіну не ўзяць, усюды ўбачым прыкметныя зрухі, усюды-яны цесна спляатаюцца з пераўтварэннямі ў грамадскім жыцці нашай краіны. Іх проста нельга аддзяліць адзін ад другога.

Святкуючы пятнаццацігадовы юбілей таварыства, кожны актывіст БГКТ з чыстым сумленнем можа ганарыцца сваёй арганізацыяй. Ёсць чым ганарыцца.

Толькі не зазнаваймася. Зрабілі мы многа, але зрабіць трэба яшчэ больш. Сярод новых рыс грамадскай актыўнасці, створаных сацыялізмам — адна з'яўляецца асабліва важнай. Мы навучыліся паслугоўвацца думкай аб будучыні, уключаць яе ў канвееры нашай дзейнасці. Ідэйнасць, якую фарміруе і да якой заклікае партыя — гэта ж гатоўнасць даць з сябе максімум для набліжэння краіны і грамадства да канкрэтна вызначанай будучыні, у якой змяшчаюцца таксама нашы мэты і мары.

Няхай жа думка аб будучыні натхняе нас у далейшай працы. Хай імкненне будаваць новае і лепшае будзе нашым паўсядзённым рухавіком.



*Беласток. Горад, у якім 15 год таму назад было заснавана Беларускае грамадска-культурнае таварыства.*



*Намеснік старшыні ПВРН Рамуальд Лазаровіч.* *Фота Цаф — Сянько.*

## XV ГОД
## ЖЫВАЯ ПЛЫНЬ

Сёння ў нашым інтэрв'ю выступае Рамуальд Лазаровіч — намеснік старшыні Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку.

— Як вы ацэньваеце дзейнасць БГКТ за 15 год яго існавання?

— Лічу, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства мае поўнае права быць задаволеным дасягненнямі сваёй пятнаццацігадовай гісторыі. Дасягненні гэтыя мае яно ў сваім унутрана-арганізацыйным жыцці, а таксама ў асяроддзі. Калі возьмем пад увагу лікі развіцця арганізацыі, якая налічвае цяпер звыш 6,5 тысячы членаў, і багатую і ўсебаковую праграму працы, то трэба сказаць, што дзейнасць Беларускага таварыства ўжо цяпер з'яўляецца важным нуртам у грамадска-культурным жыцці Беласточчыны. Доказам гэтага, між іншым, з'яўляюцца гаспадарчыя і грамадскія ініцыятывы, якія ўзнімаюць гурткі БГКТ. Выражаюцца яны ў грамадскіх чынах, будове дарог, крам, клубаў, рамонтах школ, святліц і іншых сацыяльных аб'ектаў у вёсцы.

Ведаем многа прыкладаў, дзе гурткі БГКТ арганізоўвалі розныя акцыі і конкурсы, якія служаць аднаўленню вёскі, якія прыдаюць ёй эстэтычны выгляд, якія ўзнімаюць яе гігіену, якія павышаюць спраўнасць і веды гаспадароў і дапамагаюць у іхняй працы на зямлі.

Вялікую ролю адыграла палітычная праца Беларускага таварыства. У яго радах дзейнічае 1356 членаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі, 393 члены ЗСЛь, 2574 члены ЗМВ, 359 членаў ЗМС. Такі склад, зразумела, уплывае на ідэйнае аблічча арганізацыі і на яе штодзённы актыўны ўдзел у рэалізацыі палітыкі нашай партыі і ўрада.

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

■ 12-га лютага адбылося чарговае пасяджэнне этнаграфічнай камісіі Галоўнага праўлення. На ім быў зацверджаны план працы на бягучы 1971 год, прадстаўлены старшынёй камісіі Уладзімірам Гацутай. Камісія разгледзела таксама спосабы запісвання беларускага фальклору Беласточчыны і спосабы збірання экспанатаў да рэгіянальнага беларускага музея ў Белавежы.

■ Гурток БГКТ у Міхалове, які ўзначальвае Антон Саковіч, нядаўна прыняў у свае рады 19 новых членаў.

■ 13-га лютага беларускі павятовы аддзел БГКТ у памяшканні Галоўнага праўлення арганізаваў танцавальную вечарыну, прысвечаную 15-ай гадавіне Беларускага таварыства і «Нівы». Прыняло ў ёй удзел 300 чалавек.

■ Гурток БГКТ у Пяньках (Беластоцкі павет) рыхтуецца да конкурсаў на беларускую песню і на найлепшы драмгурток. У конкурсе на беларускую песню прыме ўдзел некалькі чалавек. Драмгурток падрыхтоўвае п'есу «Люцынка - інжынерыха». У апошні час гурток БГКТ у Пяньках павялічыўся на 7 чалавек.

■ 14-га лютага мастацкі калектыў з Рыбалаў (Бельскі павет) выступіў у вёсцы Козлікі ў Беластоцкім павеце. Праграма калектыву складаецца з трох беларускіх п'ес і выступленняў харавой групы.

■ Прэзідыум Галоўнага праўлення 15-га лютага абмеркаваў працу інструктараў ГП і справы, звязаныя з атрыманнем іншага памяшкання на рэгіянальны беларускі музей у Белавежы. Былі разгледжаны таксама справы бюджэта таварыства на 1971 год і магчымасці пакупкі новай легкавой машыны, якая неабходна для сувязі з праўленнямі аддзелаў і больш як 200 гурткамі БГКТ на Беласточчыне.

■ 17-га лютага адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта конкурсаў на беларускую песню і на найлепшы вакальны калектыў. Пастаноўлена, што цэнтральныя элімінацыі на беларускую песню адбудуцца 14 сакавіка, а 21 сакавіка — на вакальныя калектывы. Перад гэтымі датамі адбудуцца элімінацыі ў аддзелах БГКТ.

(мх)

## РЭДАКЦЫЙНАМУ КАЛЕКТЫВУ „НІВЫ“

Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства з нагоды 15-ай гадавіны грамадска-палітычнай і культурна-асветнай дзейнасці «Нівы» ў Польскай Народнай Рэспубліцы перадае калектыву яе рэдакцыі сардэчныя віншаванні і падзяку за ўсебаковую папулярызацыю дзейнасці і дасягненняў Беларускага таварыства, а таксама гаспадарчых і культурна-асветных дасягненняў нашай Айчыны.

Шмат поспехаў у працы БГКТ было дасягнута дзякуючы цікавым пачынанням калектыву рэдакцыі «Нівы» і гуртаванню членаў БГКТ ды асяроддзя вакол выканання нашых статутовых грамадска-гаспадарчых заданняў у галіне развіцця нашага рэгіёна.

Дзякуючы публікацыям аб жыцці БГКТ, якія змяшчаліся на старонках «Нівы», гурткі Беларускага таварыства сістэматычна ўдасканальваюць і развіваюць формы сваёй дзейнасці, асабліва ў галіне аховы багатай рэгіянальнай духоўнай і матэрыяльнай культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.

Прэзідыум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства жадае калектыву рэдакцыі «Ніва» далейшых вялікіх поспехаў у яго творчай, ганаровай і адказнай грамадска-палітычнай працы.

ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### УСЁ ЧАЛАВЕКУ

У СССР апублікаваны праект «Дырэктыў XXIV з'езда КПСС па пяцігадоваму плану развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады». Варта падкрэсліць, што ў перыяд 1966—1970 г.г. народная гаспадарка СССР развівалася яшчэ больш высокімі тэмпамі, чым у папярэднім пяцігоддзі: аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос у 1,5 раза, нацыянальны даход перавысіў у 1970 годзе ўзровень 1965 года на 41 працэнт.

Дзевятая пяцігодка будзе адзначаць далейшы рост эканамічнай магутнасці Савецкага Саюза. У адпаведнасці з праектам Дырэктыў нацыянальны даход краіны павялічыцца за пяцігоддзе галоўным чынам за кошт павышэння прадукцыйнасці працы на 37—40 працэнтаў, а рэальныя даходы ў разліку на душу насельніцтва ўзрастуць прыкладна на 30 працэнтаў.

### ПЕСІМІЗМ І ТРЫВОГА

Мільёны амерыканцаў ахоплены песімізмам і глыбокай трывогай за заўтрашні дзень. Усё часцей праводзяць яны паралель паміж 70-мі і 30-мі гадамі — перыядам «вялікага крызісу», які з'явіўся прычынай незлічоных чалавечых трагедый. А вось падставы для такіх параўнанняў.

Колькасць беспрацоўных у ЗША дасягнула пяці мільёнаў чалавек — рэкордная лічба за апошнія 10 гадоў. За адзін толькі год цэны выраслі амаль на 6 працэнтаў. Каля 10 працэнтаў насельніцтва краіны складаюць людзі, што апынуліся, нават паводле амерыканскага друку, «на мяжы галечы». Толькі за першыя дзевяць месяцаў 1970 года ў Злучаных Штатах зарэгістравана больш як 5.000 забастовак, у якіх прымала ўдзел 2,5 мільёна чалавек.

Кіруючыя колы ЗША, што апынуліся перад прывідам новага крызісу, устрывожаныя ростам забастовачнага руху, не скупяцца на абяцанкі забяспечыць «працвітанне» краіны. Але Амерыка, якая адчувае на сабе страшэнныя вынікі эканамічнага спаду, адмаўляецца падзяліць казённы аптымізм.

### АТРУЧЭННІ Ў В'ЕТНАМЕ

Больш як 275 000 жыхароў Паўднёвага В'етнама атруцілася ў 1970 годзе ў выніку выкарыстання Злучанымі Штатамі сродкаў хімічнай вайны. Загінула звыш 400 чалавек. Гэтыя даныя прыводзяцца ў камюніке камітэта па асуджэнню ваенных злачынстваў імперыялістаў ЗША і іх лакеяў у Паўднёвым В'етнаме.

### ЗА СКЛІКАННЕ НАРАДЫ

За неадкладнае скліканне агульнаеўрапейскай нарады па пытаннях бяспекі і хутчэйшую ратыфікацыю дагавору ФРГ з Савецкім Саюзам і Польшчай выступіла «Нямецкае таварыства міру — інтэрнацыянал праціўнікаў воінскай службы». На канферэнцыі гэтай арганізацыі зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, што адбылася ў Эсене, дэлегаты вырашылі правесці з 2 па 9 красавіка ў ФРГ кампанію за скліканне агульнаеўрапейскай нарады і супраць агрэсіі ЗША ў Індакітаі. (ак)



## БССР

### З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

Культурная грамадскасць Савецкай Беларусі ўрачыста адзначала 50-годдзе з дня нараджэння выдатных беларускіх пісьменнікаў Івана Мележа і Івана Шамякіна. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР абодва юбіляры былі ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

### ЖЫЛЛЁВАЕ БУДАЎНІЦТВА

Намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР, Ю. Б. Колаколаў на старонках газеты «Чырвоная змена» сцвярджае, што за мінулую пяцігодку толькі ў Беларусі ўведзена ў эксплуатацыю звыш 20-ці мільёнаў квадратных метраў жылля. Гэта значыць, што каля 2 мільёнаў чалавек, або амаль пятая частка насельніцтва рэспублікі, атрымала новыя кватэры або палепшыла свае жыллёвыя ўмовы. Па сутнасці на працягу 5-ці гадоў беларускія будаўнікі пабудавалі столькі дамоў, што хапіла б іх, каб паставіць два такія буйныя гарады, як Мінск.

### СТУДЗЕНЬ У ГАСПАДАРЦЫ БССР

Як паведаміў ЦСУ, план студзеня 1971 года па аб'ёму рэалізацыі прадукцыі і выпуску большасці важнейшых відаў прамысловай прадукцыі быў у БССР поўнасцю выкананы. У параўнанні да мінулага года аб'ём прамысловай вытворчасці ў студзені г. г. узрос на 11 працэнтаў.

### ВЫСТАЎКА

У рэспубліканскім доме мадэляў у Мінску наладжана выстаўка, якая паказвае дасягненні лёгкай прамысловасці БССР. На выстаўцы можна ўбачыць каля 700 вырабаў, неабходных у штодзённым жыцці грамадзян.

### ВЫСОКІ ЎРАДЖАЙ

За гады мінулай пяцігодкі калгас «XXI з'езд партыі», Мсціслаўскага раёна, двойчы павялічыў ураджайнасць сваіх палёў. У мінулым годзе калгаснікі сабралі па 36,4 цэнтнера збожжа з аднаго гектара. Іншыя сельскагаспадарчыя паказчыкі тут таксама вельмі высокія. За гэта калгас быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

З саўгаса «Індустрыя» Пухавіцкага раёна таксама паведамляюць аб высокіх дасягненнях хлебаробаў. Палявая брыгада М. Змачынскага на плошчы ў 530 гектараў атрымала 30 цэнтнераў збожжа з гектара, а пшаніца «міронаўская—808», якой брыгада мела 120 гектараў, дала ўраджай у 40 цэнтнераў з гектара.

### АГЛЯД

У Гродне адбыўся абласны агляд самадзейных калектываў Гродзеншчыны, прысвечаны XXIV з'езду КПСС. Пераможцам яго журы прызнала Слонімскі народны тэатр, які паказаў драму П. Салюка «Запомніце іх імёны». Гэты тэатр існуе ўжо 22 гады. Ён паставіў 100 розных п'ес. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ЦЭНЫ

15 ліпеня адбылося супольнае пасяджэнне Палітычнага бюро ЦК партыі і Прэзідыума ўрада. На пасяджэнні была зроблена ацэнка актуальнага эканамічнага і грамадскага становішча краіны. Сцвярджалася, што далейшае павышэнне фонду заработкаў стварала б пагрозу гаспадарчай няўстойлівасці і вяло б да пагаршэння становішча ў краіне. Карыстаючыся атрыманай ад Савецкага Саюза дапамогай і ўлічваючы перспектывы ўзросту прадукцыі мяса ў II паўгоддзі і ў наступным годзе, было вырашана ад 1 сакавіка гэтага года зніжаць цэны прадуктаў спажывцця да ўзроўню 13 снежня мінулага года, гэта значыць, да ўзроўню перад апошняй падвышкай цэн. Вырашана аднachасова ўтрымаць змененыя ў той час цэны на прамысловыя тавары.

У сувязі са зніжкай цэн выступіў па тэлебачанню з прамовай прэм'ер Пётр Ярашэвіч. Паінфармаваў ён слухачоў, што вырашана захаваць усе прынятыя пасля VII пленума рашэнні аб павышэнні зарабаткаў найменш зарабляючых, аб павышэнні сямейных дапамог, некаторых пенсій, а таксама ўсе іншыя пастановы, мэтай якіх было паляпшэнне матэрыяльнага становішча рабочых.

— Прымаем пастановы, — сцвердзіў прэм'ер, — надзвычай вялікай важнасці ў сённяшнім становішчы нашай краіны, важнасці як эканамічнага, так і палітычнага і грамадскага характару. Ліквідуецца такім чынам непасрэдная прычына незадавальнення рабочага класа, якое з асаблівай вастрасцю выступіла ў снежні мінулага года пасля аб'явы аб павышэнні цэн на прадукты харчавання.

— Палітычнае бюро і ўрад, — сказаў прамоўца, — рашуча крочаць шляхам выканання пастаноў VII і VIII Пленумаў ЦК партыі, якія акрэслілі далейшае развіццё краіны, забеспячэнне ўзросту яе гаспадаркі і паляпшэнне жыццёвага ўзроўню працоўных мас. Выкананне гэтай праграмы патрабуе далейшых намаганняў з боку рабочага класа, сялянства і інтэлігенцыі. З'яўляецца гэта неабходнай умовай падтрымкі палітычнай лініі, выказанай у праграмнай прамове Палітбюро якую Эдвард Герэк прадставіў на VIII Пленуме ЦК партыі.

— Прадпрымаючы гэты смелы крок, — сказаў П. Ярашэвіч, — разлічваем на вялікую ініцыятыву і прадукцыйную актыўнасць працоўных мас, на дадатковую экспартную прадукцыю ў прамысловасці і на ўзрост жывёлагадоўлі ў сельскай гаспадарцы. Лад, парадак і дысцыпліна ў вытворчасці з'яўляюцца асноўнымі ўмовамі выканання нашых намераў.

— Інфармуючы аб рашэнні, — сказаў на заканчэнне прамоўца, — Палітбюро і Рада Міністраў звяртаюцца да рабочых калектываў усіх прадпрыемстваў, да ўсіх людзей працы з заклікам прыкласці шчырыя намаганні для забеспячэння належных матэрыяльных умоў выканання пастаноў прынятых дзеля паляпшэння жыццёвага ўзроўню грамадства. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ТАВ. Э. ГЕРЭК У БЕЛАСТОКУ

17 лютага пабываў у Беластоку I сакратар ЦК партыі тав. Э. Герэк. Першы сакратар сустрэўся з членамі экзекутывы і краўнікамі аддзелаў Ваяводскага камітэта і пазнаёміўся з праграмай працы беластоцкай партыйнай арганізацыі пасля пастаноў VIII Пленума. У праграме асаблівы націск зроблены на праблемы сельскай гаспадаркі. Тав. Герэк цікавіўся нашым рэгіёнам, грамадска-гаспадарчым становішчам і перспектывамі развіцця нашага ваяводства.

У час візіту ў Беластоку I сакратар пабываў на фабрыцы механічнага абсталявання (ФПіУ) і наведаў склад-халадзільнік.

### НАРАДЫ ПАРТЫЙНАГА АКТЫВУ

Як і па ўсёй краіне, так і ў нашым ваяводстве, непасрэдна на прадпрыемствах адбываюцца дыскусіі на тэму пастаноў VIII Пленума ЦК ПАРП. У крытычных, але дзелавых дыскусіях партыйна-гаспадарчы актыў абмяркоўвае магчымасці і спосабы павелічэння і паляпшэння якасці прадукцыі, каб хутчэй пераадолець гаспадарчыя цяжкасці і паскорыць развіццё ўсёй народнай гаспадаркі і нашага ваяводства. Такія нарады з удзелам сакратароў Ваяводскага камітэта адбыліся ўжо на найбольшых беластоцкіх прадпрыемствах.

### ПЛЕНУМ ВК СД

У мінулым тыдні адбылося таксама пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Дэмакратычнага стронніцтва. Тэмай пленума было выкананне гаспадарчага плана на гэты год у нашым ваяводстве і актывізацыі рынкавых паслуг. У пасяджэнні прымаў удзел старшыня ЦК СД, намеснік старшыні Рады Дзяржавы З. Москва. Значнае месца ў дакладзе, з якім выступіў старшыня ВК СД Р. Бартнік, было прысвечана справам дробнай вытворчасці і паслуг, а на фоне гэтага — заданням для рамеснікаў.

### У КАМІТЭЦЕ СЕЛЬГАСПАДАРКІ

Справам хімічнай аховы раслін і вапнаванню глебы было прысвечана пасяджэнне ваяводскага камітэта па справах сельскай гаспадаркі. У дыскусіі гаварылася, што канцэнтрацыя намаганняў і стварэнне брыгад апраўдвае сябе. Развіваюцца паслугі, але іх якасць яшчэ незадавальняючая. Дрэнна яшчэ выконваюць свае абавязкі некаторыя машынныя базы і сельгасгурткі. Былі прыведзены прыклады такога тыпу недахопаў з Алецкага, Манецкага, Аўгустоўскага, Голдапскага і Гайнаўскага паветаў. Прадстаўнік ВЗГС запэўніў, што гандлёвыя пляцоўкі добра забяспечаны ўсімі сродкамі аховы раслін.

### 25 ГОД ОРМО

У сувязі з 25-годдзем Дабраахвотнага рэзерву грамадзянскай міліцыі (ОРМО) адбылося ў тэатры імя Вянгеркі ўрачыстае пасяджэнне. Гасцямі ў армоўцаў былі прадстаўнікі ваяводскіх дзяржаўных і партыйных улад. Многія члены ОРМО атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. (яч)

---

# ДЗЯКУЕМ

Усім арганізацыям, установам і прыватным асобам, якія з нагоды 15-ай гадавіны Беларускага грамадска-культурнага таварыства прыслалі юбілейныя віншаванні, сардэчна дзякуем.

*Прэзідыум ГП БГКТ*

Усім, хто віншаваў нас з нагоды «нiваўскіх» 15-ці год, сардэчна дзякуем.

*Рэдакцыя*





*Паштоўка з БССР*

### АДЗІН З НАЙБОЛЬШЫХ У КРАІНЕ

Жакардавыя джэмперы, світры, жаночыя касцюмы, сукенкі і іншыя шарсцяныя і паўшарсцяныя вырабы — усяго звыш дваццаці назваў — выпускае Пінскі камбінат верхняга трыкатажа.

Праектная магутнасць прадпрыемства разлічана на 12,5 мільёнаў вырабаў у год. З іх палавіна — дзіцячага асартыменту.

З уводам у строй Пінскага камбіната верхняга трыкатажа на поўную магутнасць ён будзе адным з найбольшых у краіне прадзільна-трыкатажных прадпрыемстваў.

На здымку: агульны від прадзільнага цэха.




**PIĄTEK, 26 lutego**

14.05 Program dnia. 14.10 Nowiny. 14.20 Dla uczniów. 15.25 O muzykach. 15.50 Panorama nowin. 16.05 Festiwal republik radzieckich. Kazachstan. 17.30 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Mężczyźni. 19.00 Czas. 19.30 Dla wsi. 20.00 Spektakl TV. 21.50 Nowiny.

**SOBOTA, 27 lutego**

13.00 Uniwersytet ludowy. 14.30 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Tańce. 16.00 Nowiny. 16.05 Dla wsi. 16.35 Film animowany dla dzieci. 17.00 Europa: wydarzenia, kraje, problemy. 17.30 KWZ. 19.30 Czas. 20.00 Spektakl TV. 21.50 Nowiny.

**NIEDZIELA, 28 lutego**

11.30 Dla uczniów. 12.00 Panorama międzynarodowa. 12.30 Dla uczniów. 13.30 Dla wsi. 14.00 Klub filmowy. 15.00 Mistrzostwa świata w jeździe figurowej na lodzie. Występ pokazowy. 18.00 Czas. 18.30 Kalejdoskop. 18.40 „Cygan". Film fab. 20.00 Koncert Chóru im. Piatnickiego. 21.20 Kronika spartakiady. 21.35 Nowiny.

 

# ПАЧАЛОСЯ З КАЛЕНДАРА

Перада мною маленькая кніжка, маленькага фармату! Беларускі каляндар на 1957 год. Першая кніжка, выдадзеная Галоўным праўленнем БГКТ. 150 старонак друку. Кніжка, бедная фактычным зместам, багатая зместам эмацыянальным.

У кніжцы ўсяго пакрыху — крыху вершаў, апавяданняў, многа гумару. Крыху этнаграфіі, гісторыі, артыкул аб дэмакратызацыі жыцця ў Польшчы і аб народнай законнасці.

Першыя прозвішчы першых беларускіх аўтараў. Прозвішчы, якія потым прыгаслі на беларускай ніве — сентыментальнае апавяданне Васіля Баршчэўскага, вершы А. Сошкі, М. Красоўскага, этнаграфічны артыкул М. Матэйчука. Крыху здымкаў, крыху дат. І велізарны, як на тагачасныя магчымасці кальпартажу, тыраж — 10 тысяч экземпляраў.

На адну асабліва рысу варта звярнуць увагу ў першым Беларускім календары — на яго народнасць і сялянскасць. Многа тут народных прымавак, гумару, прыкмет пагоды і т.п. Або вось хаця б такі невялікі раздзелік календара: Калі і дзе жнуць на зямным шары. Цікава, бо аказваецца, што ў кожны месяц недзе ў свеце адбываецца жніво. Ад гэтай істотнай рысы першага календара паступова адыходзілі мы ў наступных выданнях.



Потым выйшлі іншыя кніжкі: першыя сцэнічныя творы для масавых гурткоў, першы літаратурны альманах мясцовых аўтараў «Рунь», першы навуковы зборнік. У 1961 годзе выйшла ў свет першая кніжка аднаго аўтара — фельетоны Дзядзькі Леваня, а ў 1962 годзе — «Белавежскія матывы» Алеся Барскага.

За 15 год БГКТ выдала звыш 30 рознага роду кніжак — лепшых і горшых, цікавых і менш цікавых. Многа гэта ці мала?

Агульна беручы, гэта не многа —дзве кніжкі ў год. А калі адняць пастаянную, штогадовую пазіцыю — каляндар, дык выходзіць адна кніжка ў год. Трэба аднак сказаць праўду: выдавецтвы БГКТ забяспечвалі асноўныя, найважнейшыя патрэбы беларускай меншасці ў Польшчы.

Пішу: асноўныя і найважнейшыя патрэбы. Бо сапраўды, не ўсе патрэбы маглі мы забяспечыць. Вядомая наогул беднасць рэпертуару нашых драматычных гурткоў — старыя п'есы ставяцца ў адной і той самай мясцовасці па некалькі разоў, новых жа друкуем надта мала. Вядома таксама, як усё яшчэ многа цяжкасцей мае школа з беларускай мовай з прычыны недахопу адпаведных кніжак. Зразумела, гэта справа перш за ўсё Міністэрства асветы, але як таварыства, так і рэдакцыя «Нівы» імкнуліся і імкнуцца дапамагчы школам у іх працы. І зусім слушна.

Сярод кніжак, выдадзеных Галоўным праўленнем БГКТ, ёсць адна даволі дзіўнага характару. Гэта — «Мой родны кут», выдадзены ў 1963 годзе. Кніжка ўзнікла якраз як спроба дапамогі настаўнікам у іх працы. Наколькі кніжка дапамагла ў сапраўднасці, цяжка сказаць. Перш за ўсё, невядома дакладна, каму прысвечана кніжка — настаўніку ці вучням. Яе змест у асноўным дзіцячы (хаця друкаваліся і зусім не дзіцячыя тэксты), форма аднак зусім не адпавядае дзіцячай кніжцы.

Не раз гаварылася аб неабходнасці выдання метадычных дапаможнікаў для настаўнікаў беларускай мовы. Дагэтуль няма аніводнага такога падручніка. І толькі нядаўна, дзякуючы дапамозе куратарыі, адкрыліся магчымасці апублікавання метадычных распрацовак урокаў беларускай мовы.

Гледзячы на горбу кніжак, выдадзеных Галоўным праўленнем БГКТ, бачыш асноўны іх фармальны недахоп: кніжкі нашыя вельмі несучасныя па форме. Дрэнная папера, нецікавае графічнае афармленне. Тоўстыя, па 200 старонак, неэфектна выдадзеныя зборнікі вершаў. Прыемнай навіной у гэтай галіне з'яўляюцца дзве апошнія кніжкі Янкі Чыквіна. Думаю, што ў будучыні неабходна звярнуць большую ўвагу на форму нашых выданняў. Кніжка — гэта не толькі змешчаны ў ёй змест, але адначасова — гэта візітная картачка БГКТ.

*У. Паўлючук*

*Фота Цаф — Сянько*




Перад урачыстай датай 15-годдзя Галоўнае праўленне БГКТ склікала ў Беласток свой актыў, каб у рабочай атмасферы пагаварыць аб працы Беларускага таварыства і асабліва, як гэтая справа выглядае ў так званым «тэрэне». Панавала на нарадзе агульнае пераканаине, што ад VI-га з'езду таварыства нашае скончыла са схематызмам, застоем і адарванасцю ад жыцця. Новая практыка арганізацыі шырока ўключае яе ў агульны нурт грамадскага жыцця краіны і асабліва ваяводства. Беларускае таварыства стала істотным элементам развіцця культурнага жыцця ваяводства. Такі напрамак атрымаў поўную падтрымку актыву БГКТ і ўсіх яго членаў.

Нарада актыву выявіла аднак недахоп, асабліва ў тым жа глыбокім тэрэне. Недахоп гэты можна было б назваць асцярожнай абыякавасцю. Людзі, праўда, зварухнуліся, але далей не хапае ім адвагі, каб поўнасцю, актыўным чынам уключыцца — кожны ў сваім гуртку, кожны ў сваёй вёсцы — ў працу таварыства, у прапаганду яго ідэй. Падкрэсліць трэба тут, а хутчэй мо прыпомніць, што галоўнай ідэяй Беларускага таварыства з'яўляецца якраз праца, якая служыць народу і Айчыне. Гэтую ідэю актыў таварыства павінен несці ў гушчар беларускай меншасці ў Польшчы.

Нарада выявіла, кажам, асцярожную абыякавасць актыву. Варта таму, можа, затрымацца над пытаннем: наколькі існуючы актыў уводзіць новы стыль працы, які прыняло БГКТ пасля VI-га з'езда? Ці не варта да ганаровай назвы «актывіст БГКТ» уключыць новых людзей, новыя твары і новыя прозвішчы?

На нарадзе не было відаць многіх людзей, пра якіх агульна вядома, што адданыя яны грамадскай працы, яе энтузіясты, вялікія прыяцелі ідэй БГКТ.

Галоўнай справай, над якой ішла дыскусія сярод актыву, быў мадэль нашай працы на месцы. Даслоўна так і акрэсліў гэта Янка Вішанка — інструктар ГП на Сямяціцкі павет. Ён сказаў: «Вы гаворыце так навукова, а нам на вёсцы чаго іншага трэба. З вашых навукова сабраных матэрыялаў нічога на вёсцы не возьмеш. А як зрабіць, каб людзі ўзялі? Мадэль нашай працы на вёсцы мо сапраўды нядобры? Мы ўжо гадамі гаворым, каб даць людзям добрыя матэрыялы, арганізаваць іх да працы. А фактычна, як на вёсцы? У далейшым толькі «Мікітаў лапаць» і падобныя непадзельна пануюць. Нічога больш. А мы гаворым і гаворым, што трэба арганізаваць. Хвалімся сёння, як многа аўтарскіх сустрэч зрабілі нашы паэты. А я вам скажу такую рэч: два гады ў Сямяціцкім павеце я не бачыў аніводнага нашага аўтара. Метад змены мадэлю працы на вёсцы — гэта, каб больш вялікіх і разумных людзей ішло ў вёску».

У падобным тоне вельмі цікава выступіў шматгадовы і заслужаны актывіст БГКТ, старшыня прэзідыума ПРН у Гайнаўцы Мікалай Самоцік. Яго голас, як характэрны, хачу прывесці ў вялікіх фрагментах.

«...Гурткі мы пакінулі самі сабе. Наша мова тут не ўплывае на актывізацыю вёскі. Адкрытым застаецца пытанне: як актывізаваць гурток. Бо тое, што мы завязем у яго і пакажам фільм, эстрадны канцэрт ці арганізуем сустрэчу. гэтым абсалютна не актывізуем гуртка».

Далей Мікалай Самоцік падаў думку, што працу ў гуртках трэба праграмаваць.

...Да кожнага гуртка даслаць бы прапановы ў пунктах, чым могуць яны заняцца. Гурток выбраў бы сабе з нашых прапаноў адпаведныя формы працы. Напрыклад члены гуртка могуць збіраць экспанаты для музея, могуць правесці невялікую акцыю запісвання песень, абрадаў сваёй вёскі, могуць паспрабаваць арганізаваць вакальную групу, могуць заняцца культурай жыцця ў вёсцы і працы на зямлі — вучыцца садзіць бульбу і варыць ежу і гэтак далей. Але нашы прапановы, запісаныя на паперы пунктамі, павінны да іх трапіць. Дагэтуль не ўсе гурткі ведаюць, чым могуць заняцца. Я прапаную пайсці ў гурткі. Роля ГП — падказваць,

Працяг на стар.4

## „Ніва" НА ЛІДЧЫНЕ

Моцна падружыліся са штотыднёвікам «Ніва» сяляне Ваверскага сельсавета Лідскага раёна. На 1971 год мясцовыя жыхары выпісалі 48 экземпляраў гэтага выдання (гадавой працягласцю). Пастаяннымі падпісчыкамі «Нівы» з'яўляюцца Іван Вінцкевіч і Марыя Раўба з вёскі Мікутвы, Алена Валынец і Соф'я Станкевіч з Альхоўкі, Іван Вашкевіч і Іван Васілевіч з Серафінаў, Марыя Васілеўская і Уладзіслаў Сяўрук з Паперні і многія іншыя.

— Палюбілі тутэйшыя жыхары беластоцкую «Ніву», — расказвае начальнік паштовага аддзялення ў Ваверцы Зінаіда Міхайлаўна Дзянісенка. — Людзі цікавяцца жыццём сваіх польскіх суседзяў. І асабліва чытаюць у нашых вёсках змешчаныя на апошняй старонцы пацешныя гісторыі і кур'ёзы.

Задаволены і юныя чытачы — дзеці падпісчыкаў. Рабяты ахвотна чытаюць дадатак да «Нівы» — газету «Зорка». З яе дапамогай многія вучні завязалі перапіску з польскімі гарцэрамі. Так «Ніва» працуе дзеля ўмацавання дружбы брацкіх народаў.

Да сказанага вышэй застаецца дадаць, што многае па прапагандзе «Нівы» зрабіла Зінаіда Міхайлаўна. А з яе бяруць прыклад іншыя сувязісты, якія распаўсюджваюць штотыднёвік БГКТ у другіх сельсаветах.

*А. Жалкоўскі,*
*рэдактар Лідскай газеты «Уперад».*

## У НАШАЙ НІВАЎСКАЙ СЯМ'І

Пятнаццаць год. Юбілей. Пятнаццаць год нашых узаемных сустрэч і кантактаў. Пісалі мы, пісалі і запісалі 15 абшырных тамоў. А кожны том па 432 старонкі.

І заўсёды, дзе б мы не з'яўляліся, прыемна было нам пачуць:

— Прывет, «Ніва»!

Або яшчэ болей сардэчнае:

— Эх, ты, «Ніва», «Ніва» залатая!

Або і дакор:

— Што ты, «Ніва», маўчыш!? Пастарайся!

Дык мы стараемся як можам. Не шкадуем ні часу, ні сіл, ні здароўя. Праўда, таварыш галоўны?

— Мо яно там і не зусім праўда, — адказвае наш шэф, які як кожны іншы шэф, заўсёды мае нейкія засцярогі. — Аднак штосьці з гэтага ёсць, — дадае пасля. — Я сам у гэтым пераканаўся. Некалькі год таму назад паехалі мы з Міхасём на сустрэчу з чытачамі ў вёску Дубяжын, што на Бельшчыне. Заехалі, усё было нармальна. Людзей сабралося даволі многа. Абменьваемся мы поглядамі і не звяртаем увагі на свіст ветру і снег, які бубніць у шыбы. Пасля сустрэчы выходзім на вуліцу, а тут снегу па грудзі і нашай рэдакцыйнай машыны ні следу! Ледзь яе адшукалі пад снегавой коўдрай і пры дапамозе сялян неяк запхнулі ў клуню. Прышлося начаваць. Спалі мы, як дзеці адной маці — шафёр, Міхась і я — усе ў адным ложку. А рана праз снегавыя гурбы пашлёпалі мы ў летніх туфельках і лёгкіх палітэчках на чыгуначны прыпынак.

Мы любім наглядаць за жыццём у яго натуральным, не падмаляваным, не ўпрыгожаным стане, а перш за ўсё за жыццём нашай вёскі — ад кухні, ад поля і хлява. А вось што кажа наш пешаход, Валодзя.

— Гадоў пяць таму назад, — расказвае ён, — завандраваў я ў вёску Збуч, што на Гайнаўшчыне. У вёсцы было пуста. Людзі павыязджалі да працы. Дык і я паплёўся ў поле. Люблю так сабе пахадзіць пазагуменнямі. Над загонам бульбы сустрэў нейкую маладую жанчыну. «Вось добра! — уцешыўся я. — Правяду з ёй інтэрв'ю, дык будзе гатовы матэрыял, а то шэф зноў разззлуецца, што вярнуўся з камандзіроўкі з пустымі рукамі». Мы разгаварыліся. Жанчына пачала наракаць на цяжкую сялянскую долю. «Не толькі вам цяжка, — паспрабаваў я пацешыць запрацаваную сялянку. — Усім нам цяжка, працаваць трэба». Жанчына паглядзела на мяне, як на хворага чалавека, і заўзята ўзялася за сваю працу. Я моўчкі пастаяў хвіліну і адышоў падумаўшы: «Маеш табе! Інтэрв'ю чорт узяў!» Прысеўшы на вялікім камені, пачаў узірацца ў шырокі прастор палёў. Перад маімі вачыма паявілася нейкая іншая жанчына, старэйшая за папярэднюю. Яна перасоўвалася сярод зялёных хваль жыта, як каляровая машта сярод мора. Я раптам прыпомніў, што маю рэпарцёрскі фотаапарат. Калі ён шчоўкнуў, дык жанчына адвярнулася і тады мяне згледзела, і зараз пайшла хутчэй. Я зноў прысеў на свой камень. Пасля мінуты часу даляцелі да мяне словы жанчын:

— Гандзю! — загаварыла старэйшая. — Ты нэ ведаеш, які чорт ходіт тут по полю з нейкімі апаратамі?

— Не, тётко, нэ знаю, — адказала малодшая. — Вуон і тут быў. То хіба нейкі дурны пан, бо ходіт без праці і кажа, што ёму тяжко!

Вось менавіта! Ці нам цяжка, ці лёгка? Па-рознаму бывае, як у кожнай іншай сям'і. Ды людзі на гэтае пытанне даўно знайшлі адказ: там добра, дзе нас няма. Што ж, звычайнае жыццё, а ў жыцці здараецца па-рознаму.

— Міхась, што табе здарылася на ніваўскім пасту?

— Здарылася мне такое, што я ўжо развітаўся з жыццём. Ехалі мы ў Сямяцічы на сустрэчу. Былі ўжо за Боцькамі, у лесе. Сядзімо, гутарым, жартуем і нічога не прадчуваем. Раптам наша машына пайшла полькай па шашы. Ад рова да рова. Ад дрэва да дрэва. Шафёр круціць рулём, а машына танцуе, быццам звар'яцелая. Перад маімі вачыма замільгацелі твары дзяцей і жонкі, маланкавым фільмам праляцела ўсё жыццё. Пачаў несамавіта крычаць... Ды і не памятаю, як мы спыніліся. Усё, на шчасце, закончылася толькі перапалохам...

Штосьці падобнае перажыў і я. Вялі мы пошукі рускіх дзяцей, якія ў вайну засталіся на Беласточчыне. Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў адно дзіця — у той час быў ён ужо дарослым юнаком — удалося мне знайсці ў Беластоку. Выбраўся я пад указаны адрас. Застаў там жанчыну, якая яго ўсынавіла. Яна пачала наракаць на Збышка і прасіла мяне, каб я параіў, як ёй пазбавіцца яго. «Дык добра, — думаю, — не будзе бяды з разлукай». З'яўляюся тады на другі дзень і, так як дамовіўся з гэтай жанчынай, заводжу гутарку са Збышкам. Ён ужо ведаў, што не з'яўляецца родным яе сынам. Дык мае паясненні не вельмі яго ўсхвалявалі. А ўсё ж ён звярнуўся да яе:

—Мама, гэта праўда, што гэты пан кажа?

І тут у адзін момант у гэтай жанчыны наступіў нейкі раптоўны ўнутраны пералом.

— Ён брэша! — закрычала яна.

— Што вы!? — паспрабаваў я бараніцца.

*Працяг на стар. 5)*



 

Пачатак на стар. 1

# ЖЫВАЯ ПЛЫНЬ

Да з'яў асабліва каштоўных у 15-цігадовай дзейнасці таварыства я б залічыў яго карысную працу над грамадскай інтэграцыяй, над стварэннем уласцівай атмасферы сужыцця беларускага асяроддзя з польскай грамадскасцю, над усё мацнейшай сувяззю гэтых асяроддзяў з палітыкай нашай партыі. Дзейнасць такая служыць у выніку ўсё больш поўнаму ўключэнню польскіх беларусаў у працэс сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай Айчыне.

— Як ацэньваеце вы ролю БГКТ у развіцці культуры на Беласточчыне?

— Культурна-асветны рух сярод беларускага насельніцтва, які развіваецца пад патранатам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, складае напэўна, вельмі важны элемент у агульным культурным дасягненні Беластоцкага ваяводства. Высока цэнім дынамічнае, асабліва ў апошнія гады, развіццё аматарскага мастацкага руху ў беларускіх асяроддзях. Тут працуе цяпер звыш 120 тэатральных, вакальна-музычных, танцавальных і іншых калектываў. Калектывы гэтыя актыўныя, з кожным годам удасканальваюць і пашыраюць свае праграмы, папулярызуюць культурныя вартасці і мастацкія формы ў беларускіх і польскіх кругах.

Немалым мастацкім і папулярызатарскім дасягненнем можа пахваліцца «Лявоніха», якая, як мне вядома, за гады свайго існавання дала каля 1900 канцэртаў і не толькі ў Беластоцкім ваяводстве. Паспяхова выступала таксама ў ваяводствах Келецкім, Жэшоўскім, Люблінскім, Ольштынскім.

Правільнае развіццё аматарскага мастацкага руху мае, на маю думку, вялікае значэнне для захавання культурнай, нацыянальнай традыцыі, але таксама мае вялікае значэнне для культурнага збліжэння розных раёнаў і розных нацыянальных асяроддзяў нашага ваяводства. Трэба толькі помніць пра тое, каб падборка рэпертуару і яго выкананне падпарадкавана было заўсёды іменна гэтай найвышэйшай ідэі.

Неабходна адзначыць выдавецкі плён БГКТ, якое ў 1965—70 гадах выдала звыш 30-ці тамоў тыражом у 120 тысяч экземпляраў. Пра зацікаўленне выдавецкай дзейнасцю, пра зацікаўленне аўтарамі сведчаць сустрэчы, якіх адбылося звыш 900.

Карысную працу ў сістэме асветы дарослых прыносяць даклады на розныя тэмы, добра служаць справе культуры на Беласточчыне арганізаваныя таварыствам фэстывалы, вялікую культурную функцыю мае арганізаваны грамадскім чынам рэгіянальны музей у Белавежы, цікава развіваецца літаратурная дзейнасць аб'яднання «Белавежа».

Можна было б пералічваць многа мерапрыемстваў арганізаваных ці інспіраваных Беларускім таварыствам, але нават тых, якія я назваў, сведчаць аб размерах і ролі культурна-асветнага руху ў беларускім асяроддзі.

Хачу яшчэ звярнуць увагу на каштоўны факт, якім з'яўляецца ўсё шырэйшае супрацоўніцтва БГКТ з установамі і культурна-асветнымі арганізацыямі нашага ваяводства. Аб гэтым сведчаць падпісаныя таварыствам дакументы пагадненняў, а таксама развіваючаяся практычная дзейнасць.

— Якія пажаданні Вы б хацелі перадаць БГКТ на далейшую яго дзейнасць?

— Жадаю Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, каб у далейшым пашырала яно свае рады, каб узбагачала праграму сваёй дзейнасці, каб ажыўляла грамадскае і культурнае жыццё ў беларускім асяроддзі, каб плённа працавала для справы грамадскай, палітычнай, гаспадарчай і культурнай інтэграцыі беларусаў у Польшчы і каб у далейшым добра служыла справе рэалізацыі нашай супольнай мэты, якой з'яўляецца шчаслівая сацыялістычная будучыня нашай Краіны.

*Размову падрыхтавала Вера Леўчук*

# СУПОЛЬНАЯ СПРАВА

Вёска Горнае стала адной з вуліц Гайнаўкі, жыццё тут аднак у многім напамінае вёску. Зразумела, людзі тут апранаюцца так модна, як і ў Гайнаўцы, многія працуюць на заводах, прадпрыемствах і ва ўстановах, але адначасова жыхары вуліцы Горнае — гэта гаспадары, працавітыя людзі.

Тут дзейнічаюць усе арганізацыі, характэрныя для нашай вёскі. Дзейнічаюць, бо тут патрэбныя. Найлепш працуюць гурткі ЗМВ і БГКТ. Варта сказаць, што няма тут граніцы між дзейнасцю гэтых двух арганізацый. Актывісты адной арганізацыі з'яўляюцца дзеячамі другой і наадварот. Толькі што да БГКТ належаць тут і людзі старэйшыя.

Нядаўна «Ніва» пісала, што гайнаўскі ГС адкрыў клуб «Гаспадара» на вуліцы Горнае. Але ж ГС сам не накідаўся з клубам.

Некалькі гадоў таму назад жыхары вуліцы Горнае прыйшлі да вываду, што маюць цесную школу. Вырашылі пабудаваць новую. Але паколькі дзяцей тут не надта многа і школа з адным настаўнікам, школу можна было пабудаваць толькі грамадскім чынам. Пабудавалі. У мінулым годзе будаўнічыя перdesigned school... 

Стары будынак школы меў быць разбураны як непрыдатны. У абарону яго, а можа лепш сказаць з ініцыятывай, выступіла моладзь, якраз гэтая зэтэмвоўская і бэгэкатоўская. Запрапанавалі перарабіць пры дапамозе сваіх павятовых праўленняў старое памяшканне школы на клуба-кавярню. А вось прозвішчы тых, якія маюць асаблівую падставу, каб цешыцца прыгожым, пахнучым свежай фарбай клубам: Анатоль Саевіч, радны МРН, Мікалай Врублеўскі, Васіль Зенюк, Юры Кірылюк — зараз старшыня гуртка ЗМВ. Ян Юзвюк ці Анатоль Мароз — былы старшыня гуртка ЗМВ, які на ўрачыстае адкрыццё клуба прыехаў з войска. Усе яны ўлажылі ў клуб не толькі працу, але і душу.

На ўрачыстае адкрыццё прыбылі: Мікалай Самоцік — старшыня прэзідыума ПРН, Кастусь Ляшчынскі — старшыня прэзідыума МРН, Пётр Бурыла — прэзас ПЗГС, Уладзімір Кардаш — прэзас ГС і іншыя госці. З канцэртам прыехала «Лявоніха».

Людзей прыйшло многа, і тых у нейлонавых блюзках і ў цёплых вясковых кажухах. Прыемна і міла. Няма ніякага прэзідыума. Выступаюць арганізатары клуба, кароткія простыя прамовы — звароты, падзякі. Старшыня Самоцік, урачыста адкрываючы клуб, дзякаваў за ініцыятыву жыхарам Горнага, а асабліва моладзі. Але на гэтым не канец, сцвердзіў ён. У далейшым важнае, як самі жыхары будуць умець і хацець карыстацца гэтым клубам. Не павінен ён пуставаць. Памяшканне ёсць, цяпер асноўнае, каб умець добра гаспадарыць клубам.

Клуб на вуліцы Горнае перададзены пад патранат мясцовага гуртка БГКТ, маючы на ўвазе тое, што ён найлепш зможа каардынаваць дзейнасць клуба і весці арганізацыйную працу. Зразумела, што карыстацца клубам будуць усе арганізацыі. Аднак усе яны чакаюць дапамогі тых, хто працуе на прадпрыемствах і ва ўстановах Гайнаўкі, а жыве тут, на вуліцы Горнае. Хай праца ў клубе і адпачынак будуць таксама намаганнем усіх!

Лічым, што так будзе. Анатоль Саевіч, дзякуючы ўладам за падтрыманне ініцыятывы і перадказанне клуба, сказаў: «Будзем шанаваць гэты клуб, як уласны панадворак, як уласны наш дом».

*А. Лабановіч*
*фота Віктар Бура*



*Які напрамак павінна мець праца ў новым клубе, абмяркоўваюць: А. Саевіч (справа) — старшыня блёкавага камітэта, В. Бура — сакратар аддзела БГКТ, С. Сліўка — віцэ-прэзас ГС, К. Ляшчынскі — старшыня МРН, Я. Казлоўскі — старшыня ЗМВ.*



*Выступае прэзас ГС у Гайнаўцы Уладзімір Кардаш.*

(Працяг са стар. 3)

# КУДЫ ІДЗЕМ?

выдабываць людскую энергію для працы.

Іншыя гаварылі пра патрэбу звароту ў грамадска-культурнай працы таварыства да крыніц народнай культуры. Беласточчына занядбана ў культываванні народнай культуры. БГКТ павінна ўвайсці на гэты аблог, заараць яго. Гэтую справу ўзнімалі мы ў апошні час на старонках «Нівы» вельмі часта.

Алесь Барскі падтрымаў думку спалучэння народнай творчасці з літаратурай. З такога спалучэння выйсці павінны творы аб людзях і для людзей, аб іх працы і штодзённых клопатах, творы, якія б маглі адаптаваць шматлікія нашы мастацкія гурткі, творы, якія б радыкальна выгналі з нашых вёсак «Мікітавыя лапці». Пачаць трэба ўрэшце працаваць сучаснымі метадамі і на меру нашых часоў.

Як паведаміў Юрка Туронак, старшыня навуковага гуртка, гурток іхні накрэсліў шырокі план этнаграфічнага даследавання Беласточчыны. У «Ніве» якраз пісалася аб неабходнасці апрацоўкі этнаграфічнай карты Беласточчыны.

На нарадзе адазваліся і галасы схематычныя, якія толькі патрабавалі, «каб таварыства нам арганізавала, каб таварыства нам дало...» Адказваючы на такія галасы, спытаць хочацца: «а што такое таварыства?» Абвяргнуць хочам у годзе 15-годдзя БГКТ міф, што даволі націснуць у ГП зачараваны гузік, каб усё гатовенькае выскачыла. Здольнасці, сілы і неабмежаваныя рэзервы працы існуюць у кожным з нас. Давайце, пачнем працаваць!

Ідэя працы і толькі працы — карыснай і эфектыўнай — няхай знойдзе шырокую дарогу да ўсяго старэйшага і маладога актыву БГКТ і ўсіх яго членаў.

*Вера Леўчук*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

ПАЛЕМІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА. Элементы палемікі выступалі ў многіх жанрах літаратуры Кіеўскай Русі. Моцна гучалі яны ў летапісах, а таксама ў пропаведзях. Мы ўжо пісалі, што «Пасланіе Клімента Смаляціча» займала пераходную пазіцыю паміж літаратурай прапаведніцкай і літаратурай палемічнай. Чаго датычыла гэтая палеміка? Па-першае была звязана з рознымі адхіленнямі, «ерассю» у рускай царкве. Па-другое датычылі спрэчкі паміж усходнім і заходнім хрысціянскім абрадам.

Рым, як вядома, імкнуўся ахрысціць Русь паводле лацінскага абрада. З гэтай мэтай папа прысылаў у Русь сваіх місіянераў. Якраз гэтыя моманты прадстаўлены ў палемічным асвятленні ў летапісных запісах з 986 і 988 гадоў. Аўтары не толькі адзначалі факт прыезду місіянераў, але моцна матывавалі слушнасць адрачэння рускіх князёў ад лацінскага абраду. У пазнейшыя часы і летапісцы, і такія прапаведнікі, як Іларыён, даказвалі, што адзіным правільным і мілым богу абрадам з'яўляецца абрад усходні. Звязаная са справай абрадаў палеміка з латынянамі часта прыбірала ў адным і другім лагеры форму грубых нападаў, абвінавачванняў і прымітыўных закідаў. З боку рускіх дзеячоў такі кірунак палемікі быў найбольш характэрны для Феадосія Пячэрскага. Дзеяч гэты не адзначаўся асаблівай далікатнасцю сваіх вывадаў. Называў ён заходні абрад «паганаю лацінаю» і быў перакананы, што такім чынам прыносіць усходняму абраду вялікую карысць.

Спецыфічная палеміка з латынянамі паявілася таксама ў вядомым ужо нам «Хаджэнні Ігумена Даніла». Даніл, як мы ўжо гаварылі, пісаў, што яго кадзіла, пастаўленае на магіле Хрыста, само па сабе ярка загарэлася. У той жа час, піша Даніл, лампады, паднесеныя латынянамі, наогул не хацелі загарэцца, а калі іх урэшце запалілі, дык свяціліся яны вельмі мізэрным святлом. Зразумела, што маем тут дачыненне з суб'ектыўнай містыфікацыяй.

Апрача рэлігійных палемік у часах Кіеўскай Русі паявілася таксама палеміка свецкага характару. Прыкладам такога твора з'яўляецца «Маленне Даніла Заточніка». Твор гэты выключна арыгінальны на фоне старарускай літаратуры, між іншым, тым, што быў падпісаны поўным імем і прозвішчам аўтара. Іншыя помнікі старажытнай літаратуры, за выключэннем прапаведніцкай літаратуры, наогул былі безыменнымі.

Нягледзячы на поўнае імя і прозвішча, мы не ведаем, кім быў аўтар «Малення». Не ведаем, да якой грамадскай праслойкі ён належаў, не ведаем, якую меў адукацыю, не ведаем, у якіх гадах жыў і чым займаўся.

Маленне было, мабыць, напісанае ў XII ст. Аднак некаторыя даследчыкі адносяць твор да XI, а нават да XIII ст.

Пачынаецца твор ад патэтычнай заяўкі аб гатоўнасці ўдарыць «у бубны свайго розуму», каб «расплакаліся ў нас душакарысныя помыслы». Услед за гэтай дэкларацыяй ідзе зварот «княжа, мой гаспадзіне», які, зрэшты, у творы паўтарае аўтар многа разоў. Аўтар імкнецца выклікаць у князя спачуванне да сваёй беднай, але надзвычай разумнай асобы. Заточнік не адзначаецца скромнасцю, калі пачынае гаварыць аб сваіх разумовых якасцях. Лічыць ён сябе выдатным інтэлектуалістам і выказвае перакананне, што слава аб яго розуме раней ці пазней будзе вядомай шырокім колам грамадства. Гаворачы аб сабе, аўтар падкрэслівае, што ён бедны вопраткай, але багаты розумам, малады гадамі, але стары развагай. Заточнік у алегарычным звароце заахвочвае князя падставіць пасуду пад струмень яго аўтарскай вымовы, і ў гэтую пасуду паліецца слоўная асалода, нібы вада араматная. Мімаходам аўтар прызнае, што не ў кожнай галіне можа ён пахваліцца дасканалымі якасцямі. Ён слабасільны ў сэнсе фізічным і не наймацнейшы ў вайсковых справах, але затое моцны ў розуме.

Славячы сябе, не забывае Заточнік аб князю, узнімае пад аблокі яго высакароднасць і розум. З «Малення» вынікае недвузначна, што такія разумныя людзі, як князь і ён, павінны быць неразлучныя. Пры гэтым аўтар востра выступае супраць баяраў, якіх лічыць сваімі галоўнымі ворагамі.

Заточнік піша, што, быць можа, князь параіць яму ажаніцца, каб пазбыцца бяды і нястачы. Аўтар аднак не дапускае да сябе такой думкі. Паводле яго, жаніцьба была б найгоршым з усіх магчымых выхадаў. Жанчына для Заточніка — сімвал усялякага зла і грэху, таму разумны чалавек не можа звязваць з ёю свайго лёсу. Таксама рашуча адкідае ён магчымую прапанову ўступіць у манашаскі стан. Паводле аўтара, на многа лепш закончыць сваё жыццё ў беднасці, чым прыняць манаштва і ашукоўваць бога. Манашаскі стан для яго адназначны з няшчырасцю і ашуканствам.

Канчаецца «Маленне» пажаданнем князю ўдач ва ўсіх жыццёвых і дзяржаўных справах.

Няма згоды паміж вучонымі адносна класавай прыналежнасці аўтара «Малення». Адны гавораць, што быў ён выгнаным з княжаскага двара дружыннікам, другія бачаць у ім чалавека, «заточанага» (адсюль выводзяць і яго прозвішча Заточнік) у астрог або манастыр,

# САМАДЗЕЙНІКІ СА СВІСЛАЧАН



*Эльжбета — Вера Пугач і Агата (жонка Пранцыся) — Анна Гапунік.*

Драмгурток у Свіслачанах, Беластоцкага павета, пачаў сваю дзейнасць нядаўна. На рэпетыцыі пачалі прыходзіць Марыя Накала, Юрка Макарэвіч, Мікалай Гапунік, Анна Гапунік, Ніна Мукасей, Вера Пугач, Аляксей Дзярманскі і іншыя. Адбываліся яны пад кіраўніцтвам настаўніцы Надзі Мукасей. Самадзейнікі падрыхтавалі п'есу Я. Купалы «Паўлінка». З пастаноўкамі гэтай п'есы выступалі яны ў сваёй вёсцы Свіслачаны, а пасля ў Зубрах. Зараз свіслачанскія «артысты» рыхтуюцца да павятовага агляду драмгурткоў, які адбудзецца ў канцы месяца лютага г.г. у Гарадку. Варта дадаць, што пастаноўка і мастацкія часткі ў выкананні свіслачанскіх самадзейнікаў усюды праходзяць паспяхова.

Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі



*Мужчынскую ролю Сцяпана выконвае Ніна Мукасей, ролю Эльжбеты (жонкі Сцяпана) — Вера Пугач.*



*Пастаноўка «Паўлінкі» зацікавіла зуброўскіх гледачоў.*

(Працяг са стар. 3).

## У НАШАЙ НІВАЎСКАЙ СЯМ'І

— Вон! Ухадзі! — зараўла жанчына і тут жа, схапіўшы невялічкую сякерку, якая ляжала ля пліты, з размахам накінулася на мяне. У апошнюю хвіліну я схапіў раз'юшаную жанчыну за руку і збіў сякеру ўбок. Яна вылецела ў яе з рукі, а я чым хутчэй скочыў да дзвярэй... Толькі пазней даведаўся я, што гэтая жанчына нейкі час лячылася ў Харошчы. Аднак праз паўтара года Збышэк — Валеры ў савецкім горадзе Новазыбкаў вітаў сваю родную маці. І я там быў, і віно з імі піў...

І мог бы яшчэ шмат чаго расказваць пра нашу ніваўскую сям'ю, пра іншых сяброў, пра якіх тут не ўспомніў. Аднак годзе. Жыццё на юбілеях не канчаецца. У сераду зноў я або хтосьці іншы паедзе ў камандзіроўку, зноў як дагэтуль, будзем чакаць вашых лістаў і спяшаць туды, куды нас паклічаце, каб паясняць, дапамагаць, расказваць, інфармаваць, весяліць...

*Віктар*

трэція адносяць аўтара ў стан халопаў. Кім быў сапраўды, невядома.

Многа больш ведаем аб поглядах і ідэалогіі аўтара. Тут памагае нам змест «Малення». З твора вынікае, што Заточнік — гэта непрымірымы вораг баярства. Піша, што на многа мілей яму піць ваду ў доме князя, чым мёд у баярскім, прыемней яму атрымаць печанага вераб'я з рук князя, чым авечую лапатку з рук злых паноў. Са зместу твору бачым, што нянавісць Заточніка накіравана перш за ўсё супраць баярства; на другім месцы знаходзяцца жанчыны, у канцы шэрагу зненавіджаных аўтарам людзей стаяць манахі.

«Маленне» ў значнай ступені пранікнута духам сатыры і гумару. Аўтар час ад часу насмейваецца нават з самога сябе, хаця ў аўтахарактарыстыцы дамінуюць пахвальныя тоны.

«Маленне» характэрнае і тым, што бадай што першы раз у старарускай літаратуры дамагаецца ацэнкі чалавека на падставе яго інтэлектуальных вартасцей.

Няма сумненняў, што «Маленне» з'яўляецца палымянай палемікай з існуючай грамадскай рэчаіснасцю. Многа ў гэтым творы элементаў, якія здаюцца нам сёння смешнымі. Неабходна аднак памятаць, што за выступаючымі ў «Маленні» патэтыкай, абвінавачаннямі, просьбамі, самахвальствам, самапаніжэннем таілася трагедыя чалавека, які не толькі адчуваў сваю бяду, але і ўмеў яе прадставіць у літаратурнай форме.

## «СЭРЦАЙКУ» 15 ГОД

Пятнаццаць год нашай узаемнай карэспандэнцыі! Гэта шмат часу, тым больш, калі ўявім сабе, што піша ўжо да нас другое пакаленне, дзеці тых, якія былі першымі. Здараюцца таксама пісьмы ад старэйшых людзей. Аднак найчасцей просяць парады маладыя дзяўчаты.

Атрымалі мы за гэты час каля паўтысячы лістаў на розныя тэмы, хоць сам загаловак нашага «кутка», выдавалася б, найбольш дакладна акрэслівае яго характар. Былі лісты цікавыя і менш цікавыя, сэнсоўныя і бессэнсоўныя, сапраўдныя і выдуманыя. А ўсё ж такі ўсе яны аказаліся карыснымі, і для зацікаўленых і для нас, падсумоўваючых сёння ўсю датыхчасовую карэспандэнцыю




«Сэрцайка». Бо толькі ўсе яны ўзятыя разам змогуць паказаць нам, якія жыццёвыя памылкі робяць нашы дзяўчаты і хлопцы. Каб выясніць наш загаловак, хачу дадаць, што намерам нашым было паказаць толькі памылкі, як мы назвалі іх «грахамі», а не добрыя ўчынкі нашай моладзі, бо вядома ж, атрымоўвалі мы перш за ўсё сумныя лісты, а вельмі рэдка — радасныя, бо хто ж захоча дзяліцца сваім шчасцем? Паспрабуйце тады прыгледзецца гэтым грахам і на момант прызадумацца.

### ЦЯЖАРНАСЦЬ — ПЕРШЫ І ГАЛОЎНЫ ГРЭХ

Прыгожы веснавы вечар. Над рэчкай шумна і весела. Танцы і спевы. Пазнаёміліся, спадабаліся. Позна, трэба спяшацца дамоў. Дарога кароткая. А сэрца б'ецца ўсё мацней. Яны ўдваіх і сарамлівы рамантычны месяц. Забываюцца...

А потым пісьмо:

«Я цяжарная. Абяцаў, што ажэніцца, а калі даведаўся аб гэтым, перастаў прыязджаць да мяне. Што рабіць, Сэрцайка?»

### НА НАЧ — ДРУГІ ГРЭХ

У святліцы забава. Прыехалі хлопцы з суседняй вёскі. Вось той, што толькі што ўвайшоў у залу, высокі, з доўгімі чорнымі валасамі, у модных каляровых скарпэтках, спадабаўся найбольш. Танцавалі. Адвёў дамоў. Запрасіла на нач. Астаўся...

Дзяўчына наракае ў пісьме:

« Быў першым маім хлопцам. На другі дзень ад'ехаў дамоў, а калі другім разам прыехаў на забаву, «не пазнаў» мяне і не прывітаўся. Было мне сорамна. Што зрабіць, каб ён хоць адносіўся да мяне так, як да іншых дзяўчат?»

### ХУТЧЭЙ ЗАМУЖ — ТРЭЦІ ГРЭХ

18 год. Яму 22. Жыве ў другім ваяводстве. «Хадзілі» з сабой аж два месяцы! Нашто ж больш, вядома, што гэта сапраўднае каханне, хутчэй жаніцца. Пажаніліся. Праз год часу пісьмо да «Сэрцайка»:

(Працяг на стар. 7)

БІБЛІЯТЭЧКА "НИВЫ" ○ ЯНКА МАУР ○ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзірку ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвай старонкі на дроцік або шнурочак.

81.

— Што ж мы з табой нарабілі? — сумна сказаў Віктар. — Зноў памылка! Калі ж будзе канец ім? Цяпер зноў прыйдзецца будаваць хату!

— Відаць, прыйдзецца, — адказаў Мірон такім тонам, нібы ён адзін быў у гэтым вінаваты. — Але спачатку зробім вось што: возьмем два рэвальверы, насыпем у скрынкі пяску і паставім назад; гэтак жа зробім і з патронамі; барахло пакінем усё цалкам, а паперы возьмем з сабой, бо яны замінаць не будуць. Калі мы выратуемся, тады даставім каму належыць каштоўныя паперы. А хатку прыйдзецца аднаўляць. Кожны раз новыя здарэнні, таму і нельга ўсяго прадугледзець.

Віктар згадзіўся з гэтым планам, толькі ўнёс адну папраўку: узяць усе чатыры рэвальверы.

— Гэта ні ў якім разе не пашкодзіць, а можа, і спатрэбіцца, — дадаў ён.

Мірон не пярэчыў.

Пачалі ўпарадкоўваць рэчы. Калі з адной бляшанкі выбралі патроны, Мірон сказаў:

— А бляшанку адну трэба ўзяць сабе. Яна можа служыць замест гаршка.

— Правільна! Тады не трэба будзе больш важдацца з гэтым праклятым чарап'ём.

У апошні момант, калі пачалі былі закладваць гняздо, заўважылі ў галлі новую рэч. Гэта быў кінжал у ножнах. Гэтая знаходка ўсцешыла хлопцаў больш, як усё папярэдняе.

— Гэты нож нібы спецыяльна пакладзены для нас! Яны, можа, так сабе, на кожны выпадак, сунулі яго, а для нас якое шчасце! — цешыўся Мірон.

— Дай бог ім здароўя на тым свеце! — прамовіў Віктар.

Калі ўпарадкавалі рэчы, пачалі рамантаваць хатку. Трэба было зрабіць акурат так, як было раней, а гэта аказалася вельмі нялёгкай справай. Сувязь між галлём была нарушана; выходзіла звычайная куча ламачча, а не babровая хатка.

— Ах, каб на цябе ліха! — злаваў Віктар. — Ніколі не думаў, што давядзецца будаваць бабру хату.

— Ды яшчэ акурат так, як яны, — дадаў Мірон, — Не, гэтак нікуды няварта! Разбурай зноў. Няма чаго спяшацца. Рызыкоўна. Трэба прыгледзецца, як яны будуюць, і пачаць спачатку, па галінцы.

— Вось не было яшчэ бяды! — бурчаў Віктар. — Гэтак увесь дзень патрацім.

— Але ад гэтай працы залежыць нашае жыццё, — сурова сказаў Мірон.

— Эх, каб можна было папрасіць бброў, каб яны самі дабудавалі, — уздыхнуў Віктар.

І, набраўшыся цярплівасці, хлопцы ўзяліся за працу павольна, метадычна. Некалькі разоў пачыналі спачатку, адыходзілі, прыглядаліся, зноў папраўлялі. Адным словам, сапраўды патрацілі бадай увесь дзень, пакуль зрабілі так, як было спачатку.

«Дадому» вярталіся ўзброеныя да зубоў. З аднаго боку

83.

З рэвальверамі ў руках яны пайшлі ў лес. Прабадзяліся гадзіну, другую, а страляць не было ў каго. Скакалі па дрэвах вавёркі, але не пра такую дзічыну думалі паляўнічыя, ды каб і падумалі, — з рэвальвера не застрэлілі б. Бачылі на дрэве яшчэ адну жывёлу, якую Мірон палічыў за гарнастая, але Віктар растлумачыў, што гэта куніца.

— Бачыш — яна куды большая, колер цямнейшы, на шыі жоўтая пляма, морда вастрэйшая, адным словам, падабенства мала.

Каля балота спудзілі качак, але таксама страляць не было чаго і думаць. Недзе далёка мільгануў заяц. А нашы паляўнічыя толькі лыпалі вачыма, гледзячы на гэтую дзічыну.

— Вось табе і зброя! — злосна зірнуў Віктар на свой рэвальвер.

— А ты што думаў? — сказаў Мірон. — У такіх выпадках і з стрэльбы не надта трапіш.

— Пойдзем да дубоў, можа зноў дзіка ўбачым, як тады. Калі пусціць у яго дождж куляў з абодвух рэвальвераў, дык можна і забіць.

— Рызыкоўная справа, — пакруціў галавою Мірон.

— Усё-такі лепш, як з голаду пухнуць.

Але не так лёгка ўбачыць дзіка, як хацелася. Хоць і меў гэты кут права называцца звярыным, але не на кожным кроку можна было стрэць звяроў. Тым болей, што абодва астравы складалі разам вельмі значную прастору, на якой усім хапала месца. Нават да гэтага часу заставалася яшчэ, прынамсі, палова плошчы, якой хлопцы не наведвалі.

Нарэшце нашы паляўнічыя павінны былі вярнуцца да сваёй «пашы». Са зброяй у руках яны сталі збіраць шчаўе, грыбы, аер і іншую спажыву. Злавілі яшчэ дзвюх жаб.

— Гэта ж сорам! — абураўся Віктар. — З рэвальверамі лавіць жаб.

— Ніякага сораму тут няма, — спакойна прамовіў Мірон, — калі нават адзін паэт пісаў:

Выйшаў я на сенажаць
Ды з нагана ў жабу — бац!

— Мусіць, ён таксама быў галодны, як і мы, — засмяяўся Віктар.

Прахадзілі ўвесь дзень, а прынеслі дадому толькі адны грыбы. Але затое згатавалі іх па-гаспадарску: у бляшанцы, з вадой, з соллю. А замест лыжак скарысталі тыя гліняныя чарапкі, што калісьці ляпілі.

Так пражылі яны яшчэ пяць дзён. Як на смех, гэтыя дні, калі таварышы былі добра ўзброены, былі для іх самымі цяжкімі за ўвесь час жыцця на востраве. Яны нават дайшлі да таго, што адважыліся пакаштаваць хрушчоў. Пасля жаб гэта было ўжо не так страшна...

Нарэшце хлопцы зноў парашылі забіць бабра і пайшлі да іх паселішча. Але проста забіць ці злавіць, не было магчымасці, а разбураць другую хатку яны не адважыліся: добра, каб напэўна злавілі, дзеля гэтага яшчэ можна папрацаваць, а калі не?.. Тады давялося б дарэмна не толькі разбурыць, але і зноў папраўляць хат-

 

82.

— рэвальвер, з другога — рэвальвер, ды яшчэ кінжал у дадатак.

— Вось калі дапамаглі нашы ваенныя заняткі ў гуртку! — казаў Мірон. — Без гэтага не толькі не ведалі б ніякіх там піраксілінаў, але і рэвальвера не ўмелі б у руках трымаць.

— А цяпер толькі давай сюды бандытаў, — усіх перастраляю! — храбрыўся Віктар. — Хай бы цяпер трапіўся які звер.

— Ну-ну! З рэвальверам на паляванне не ходзяць. Ці пацэліш ты хоць вунь у тое дрэва.

— Ану, давай! — з запалам крыкнуў Віктар.

Стрэлілі яны па тры разы, а трапіў толькі адзін раз Мірон. Віктар аж пачырванеў ад сораму.

— Давай яшчэ! — гарачыўся ён.

— Калі ты гэтак будзеш гарачыцца, дык ніколі не патрапіш, — павучальна сказаў Мірон. — Гэта табе не стрэльба. Каб з рэвальвера навучыцца страляць на далёкай адлегласці, трэба доўга практыкавацца. А нам хопіць і гэтага. У бандыта зблізку трапім.

— Але ж трэба папрактыкавацца, патронаў хапае, — настойваў Віктар.

— Я баюся, што нашы стрэлы могуць пачуць гэтыя самыя бандыты. Хто іх ведае, дзе яны жывуць, дзе бадзяюцца! Можа, блізка.

Гэтая заўвага пераканала Віктара.

Хоць сённяшні дзень быў і зусім галодным, але хлопцы паляглі спаць у самым бадзёрым настроі. Ім здавалася, што з рэвальверамі ім галадаць болей ужо не прыйдзецца.

Калі яны паляглі, Віктар сказаў:

— Ведаеш што? Цяпер я ўжо разумею, чаму баброў гэтак шануюць, берагуць, бароняць. Яны ж надзвычай карысныя для чалавека! Гэта ж яны нас выратавалі тады ад смерці. Яны цяпер нам і зброю далі.

— Застанецца толькі папрасіць іх, каб вывелі нас адсюль, — адказаў Мірон пазяхаючы.

XIX

**Голад са зброяй. — Сапраўднае паляванне.**

Прачнуліся яны з такім пачуццём, нібы ліхія гадзіны ўжо скончыліся. Цяпер і зброя ў іх была, і дасканалы нож, і добрая пасудзіна. Можна было ўжо і сапраўдны абед згатаваць. А як жа яны знудзіліся па гатаванай страве! Усё было добра, толькі... не было чаго гатаваць. Другі дзень яны нічога не елі.

Але настрой быў бадзёры і вясёлы.

— Цяпер ужо малая бяда! — казаў Віктар. — Ідзём на паляванне!

---

84.

ку, бо пакідаць слядоў па вядомай прычыне нельга было. У дадатак да ўсяго, хлопцы прыпомнілі, што і наогул нядобра было б крыўдзіць сваіх сапраўдных дабрадзеяў.

І яны зноў пайшлі бадзяцца.

З кожным днём хлопцы слабелі ўсё болей і болей. Разам з гэтым псаваўся і ўвесь іх настрой. Часта ў іх наогул ніякага настрою не было — ні добрага, ні кепскага, — а так нейкая абыякавасць.

Ім здавалася, што яны гэтак усё сваё жыццё бадзяюцца і будуць век бадзяцца; яны забываліся на свой дом, на тое, што павінны прыйсці бандыты і надыходзіць рашучы момант.

Нарэшце аднаго разу Віктар заўважыў, што ўвечары ён чамусьці пачаў дрэнна бачыць. Дзівіўся, цёр вочы — нічога не памагала.

— Што гэта такое можа быць? — ламаў ён галаву.

— Гэта, мусіць, курыная слепата, — сказаў Мірон. — Яна бывае тады, калі чалавек марнее ад дрэннага харчавання.

Яны ўжо і хадзіць не мелі ахвоты. Часам па некалькі гадзін ляжалі нерухома.

Аднаго разу яны гэтак ляжалі пад кустом на палянцы і мутнымі вачыма пазіралі навокал. А дзень быў ясны, прыгожы. Уверсе шчабяталі птушкі, унізе гулі розныя мухі, жукі, мільгалі матылі.

Раптам па-за кустамі ціхенька хруснула. Уздрыгануліся хлопцы, азірнуліся: у кустах стаіць казуля, зграбная, прыгожая. Задраўшы галаву з невялікімі рагамі. на якіх было па два атожылкі, яна скубла маладыя парасткі і на шыі яе відаць была белая пляма. Кожны момант яна азіралася, уздрыгвала і была гатова знікнуць.

У момант ад млявасці ў хлопцаў і следу не засталося. Яны захваляваліся, напружыліся. Кожны з іх добра ведаў, што ад гэтага можа залежыць іхняе жыццё і што яны маглі страляць цяпер з падпоры, а гэта была ўжо зусім іншая справа.

— Асцярожней, асцярожней! — злосна шаптаў Віктар, бо памятаў, як Мірон у той раз зачапіўся і паляцеў. Але Мірон сам добра разумеў адказнасць моманту.

— Цаляй добра, не спяшайся! — даваў загады Віктар. — Страляць па камандзе.

Віктар даў досыць часу, каб прыцэліцца, і шапнуў:

— Плі!

Грымнулі стрэлы, падскочыла казуля і кінулася ў лес. Наткнулася на дрэва, захісталася.

Хлопцы ў бяспамяцці ўскочылі і кінуліся за ёю. Казуля хісталася і спатыкалася, але бегла наперад: хлопцы ледзь паспявалі за ёй. Звалілася яна, ускочыла, зноў пабегла. Зноў звалілася.

Хлопцы былі побач ужо і скончылі яе пакуты адзіным стрэлам. З якой радасцю глядзелі яны на першы вынік свайго «сапраўднага» палявання!

Казуля ляжала на баку, выцягнуўшы свае тонкія ногі.

## ЗЯМЛЯ і ЛЮДЗІ



*Беласток, вул. Весялоўскага 1. У гэтым будынку змяшчаецца наша рэдакцыя.* *Фота Цаф — Сянько.*

## XV ГОД „НІВЫ“ Ў СТАТЫСТЫЦЫ

(Гадавыя даныя ў экземплярах)

| Год | Тыраж | Падпіска | Продаж у кіёсках | Усяго распаўсюджна |
|---|---|---|---|---|
| 1956 | 286000 | 194700 | 46300 | 241000 |
| 1957 | 232000 | 148000 | 31000 | 179000 |
| 1958 | 245000 | 172000 | 31000 | 203000 |
| 1959 | 245000 | 179000 | 27000 | 206000 |
| 1960 | 238000 | 192000 | 23000 | 215000 |
| 1961 | 239000 | 203000 | 23000 | 226000 |
| 1962 | 250000 | 210000 | 26000 | 236000 |
| 1963 | 269000 | 214800 | 37400 | 252200 |
| 1964 | 273000 | 225000 | 37000 | 262000 |
| 1965 | 271700 | 219000 | 42000 | 261000 |
| 1966 | 306000 | 239400 | 50300 | 289700 |
| 1967 | 358100 | 265400 | 73200 | 338600 |
| 1968 | 351800 | 253200 | 77200 | 330400 |
| 1969 | 347000 | 251000 | 77000 | 328000 |
| 1970 | 355400 | 247000 | 85700 | 332700 |
| XV год | 4367000 | 3213500 | 687100 | 3900600 |



*Сямейны здымак з апошняй нарады карэспандэнтаў «Нівы» (20 снежня, 1969).* *Фота Цаф — Сянько.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### БЕЛАРУСКАЯ МАЧАНКА

Чытачы нашай рубрыкі ўжо, напэўна, заўважылі, што сённяшні нумар «Нівы» — святочны, і амаль усе артыкулы нейкія юбілейныя, падсумоўваючыя вынікі 15-гадовай дзейнасці Беларускага таварыства. Паколькі рубрыка наша яшчэ зусім маладая — ёй усяго адзін год, дык хваліцца нам няма асабліва чым, ды і няма пакуль што чаго падсумоўваць.

Усё ж аднак хацелася б неяк і нам далучыцца да святкавання гэтага юбілею, а таму пішам сёння пра славутае беларускае блюда — мачанку. Здаецца нам, што на Беласточчыне гэта патрава не надта распаўсюджана, дык добра было б, каб і тутэйшыя сяляне ўвялі ў сваё меню гэтую беларускую народную патраву.

Беларуская мачанка, калі можна так сказаць, базуецца на смажаным мясе і мучным соусе. А прадуктаў гэтых, як вядома, не забракне ў ніводнай сялянскай хаце. Ядуць мачанку і з бульбаю і з блінамі, але больш традыцыйная — гэта зразумела, тая, што з блінамі.

### МАЧАНКА З БУЛЬБАЙ

Мачанку з варанай бульбай робяць на свініне або бараніне. Мяса рэжуць на кавалкі. Найлепш адпавядае на мачанку мяса з грудзінкі, каб былі робрышкі. Кавалкі мяса абсмажваюць на патэльні, а пасля складаюць у каструлю, даліваюць вады і тушаць няцэлую гадзіну. Мяса ў мачанцы не павінна быць надта мяккае, не павінна разлазіцца, павінна яно быць цвердаватае. Вядома, што некаторыя гаспадыні, робячы мачанку, мяса нават не тушаць, а толькі добра яго падсмажваюць на патэльні, дадаюць дробна нарэзанай цыбулькі і, хвіліну падсмажыўшы яе, даліваюць на патэльню вады ды робяць мучны соус. Аднак, калі хто хоча зрабіць мачанку паводле ўсіх правілаў, дык павінен мяса падтушыць, а на булёне, які атрымаецца пры тушэнні, зрабіць густы мучны соус з падсмажанай цыбулькай і пятрушкай. Смажанае мяса спалучаюць з падрыхтаваным соусам і хвіліну варыць разам. Падаюць гэту мачанку з варанай бульбай.

### МАЧАНКА З БЛІНАМІ

Яшчэ больш класічная мачанка з блінамі, інакш яе можна было б назваць мачанкай з вясковай каўбасой.

Мяса (свініну ці бараніну з робрышкамі) таксама рэжуць на даволі вялікія кавалкі і абсмажваюць на сале. Абсмажваюць таксама вясковую каўбасу, парэзаную на вялікія кавалкі. Усё разам складаюць у каструлю, даліваюць вады і тушаць не надта доўга. Да атрыманага пры тушэнні булёну дадаюць дробна парэзаную падсмажаную цыбулю і пятрушку, а пасля робяць на булёне густы мучны соус. Кладуць у соус падтушанае мяса і каўбасу і варыць яшчэ крыху разам. Падаюць гэту мачанку з добрымі пшанічнымі блінамі.

Прыемнага апетыту!

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

...Я стаяў насупраць шырокага з белымі каланамі ганка. Навокал тоўпіліся фотарэпарцёры. Кожны з іх стараўся праціснуцца праз кардон савецкай і амерыканскай вайсковай аховы бліжэй да сходаў, каб не апынуцца ззаду, калі з'явіцца Рузвельт. Урэшце адчыніліся дзверы, і на ганку з'явіўся прэзідэнт. Везлі яго два філіпінцы. На чорную палярынку, счэпленую ўгары ланцужком, які быў умацаваны паміж дзвюма клямрамі ў выглядзе ільвіных галоў, Рузвельт меў накінуты кляёнчаты плашч ахоўнага колеру. На галаве яго быў добра вымяты, старамодны капялюш. Твар яго быў такім, якім прывыклі мы бачыць на партрэтах: пенснэ, доўгі мундштук з папяросай у вялікіх адслоненых ва ўсмешцы, зубах. Твар Рузвельта быў змучаны, а тая непрыемная раніца асабліва падкрэслівала хваравілівую бледнасць яго твару. Амаль фізічна можна было адчуць, як цяжка гэтаму вельмі хвораму чалавеку несці цяжар, што спачываў на яго плячах. Сілы яго ўзмацняла неўтаймавальная воля і ўнутраная энергія.

Да каляскі падышлі двое дужых, маладых сяржантаў, падсунулі яе да «Віліса» і пасадзілі прэзідэнта на пярэднім сядзенні самахода. Ногі яго прыкрылі тоўстым пледам, а зверху нацягнулі брызент. Тым часам да групы праваджаючых далучыліся Сталін і Чэрчыль. Сталін падышоў да машыны, моцна пацісну́ў руку прэзідэнта, жадаючы шчаслівай дарогі.

— Лічу, што зрабілі мы тут добрую работу, — сказаў Рузвельт. — Узгодненыя рашэнні забяспечаць нам перамогу...

— Цяпер ужо ніхто не будзе сумнявацца, што атрымаем яе, — усміхаючыся сказаў Сталін.

Калі Чэрчыль развітаўся з Рузвельтам, шафёр уключыў матор і зараз жа на ступенькі «Віліса» ўскочылі чацвёра дэтэктываў. Двое з іх вынялі з-пад пінжакоў аўтаматы і амаль палажыліся на крылах самахода. Выглядала гэта так, быццам самаход Рузвельта павінен прабівацца праз акружаючага яго ворага. Упершыню ўбачыў я, як арганізуецца ахова амерыканскага прэзідэнта і мне здалося, што наўмысная дэманстрацыя дэтэктываў можа толькі прыцягнуць увагу злачынцаў. Рузвельт, відаць, лічыў гэта аперэтачнае прадстаўленне звычайнай з'явай. Ён спакойна ўсміхаўся, а калі «Віліс» рушыў, падняў угару правую руку з расстаўленымі пальцамі ў кшталце літары «V» — «Victoria».

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВАСІЛЬ ДЗУН

Адным з найбольш актыўных прыхільнікаў Беларускага музея ў Белавежы з'яўляецца актывіст гайнаўскага аддзела БГКТ Васіль Дзун. Калі ў 1964 годзе пачалася зборка экспанатаў для праектаванага Беларускага музея, ён першы прынёс будучыя экспанаты — вышываныя ручнікі і пляцёнкі з бярозавай і ліпавай кары. Многа сэрца ўлажыў ён у папулярызацыю музея сярод насельніцтва Гайнаўшчыны. На сустрэчах у гуртках БГКТ Васіль Дзун заахвочвае ўсіх да зборкі экспанатаў, а сам перадаў нам каля 50 вельмі цікавых прадметаў, якія дастаў на вёсках. Заўсёды пытаецца ён: «Чаго яшчэ няма ў музеі, якога тыпу экспанатаў трэба шукаць?» І калі даведаецца, што няма яшчэ таго ці іншага прадмета, пастараецца неадкладна знайсці яго. Многа ёсць сімпатыкаў музея сярод актывістаў гайнаўскага аддзела БГКТ, але ніхто з іх не працуе столькі, колькі Васіль Дзун.

Нядаўна Васіль Дзун перадаў музею наступныя экспанаты: 1) капшук для тытуню, падараны Аннай і Янкам Дамброўскімі з Шымак, 2) капшук для тытуню і на табаку — дар Казіміра Грыца з Шымак, 3) кругельку і развітушкі, якія перадаў Кастусь Баўдэ з Вольці Тэрахоўскай.

Музей складае ім усім падзяку, а Васілю Дзуну жадае далейшых поспехаў у зборцы экспанатаў.

*Кіраўнік Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы*
*мгр Уладзімір Гацута*

## ТОРТЫ НА СЯЛЯНСКІМ СТАЛЕ

Гурток вясковых гаспадынь у вёсцы Белкі Гайнаўскага павета заснаваны быў тры гады таму назад. Адразу ж жанчыны хацелі арганізаваць курс крою і шыцця. Звярнуліся яны да павятовага праўлення сельгасгурткоў, каб накіравала яно ў Белкі інструктара. Праз нейкі час атрымалі жанчыны адказ, што кваліфікаваных кадраў не хапае.

У канцы снежня мінулага года ў вёску прыйшло паведамленне, што згодна з павятовым планам у Белках будзе арганізаваны курс пячэння і мясных і рыбных вырабаў.

Жанчыны былі вельмі задаволены, што ў павеце пра іх помнілі. Яны арганізавалі сход і абмеркавалі ўсе справы, звязаныя з гэтым курсам. У канцы студзеня з'явілася ў нашай вёсцы інструктар Зіна Смактуновіч і навучыла жанчын пячы торты, макоўнікі і іншыя дэлікатэсы. На заканчэнне курсу жанчыны запрасілі сваіх мужоў на дэгустацыю тортаў. Але гэта не была звычайная дэгустацыя — гэта была гучная вечарына з музыкай. *Ярош, Белкі*

## НОВЫ СОЛТЫС

Выбары солтыса — вялікая падзея ў вёсцы. У Козліках, што на Гайнаўшчыне, выбары солтыса адбыліся 19-га студзеня. З'яўляецца цяпер ім А. Аўсенюк. Раней гэтую функцыю на працягу 9-ці год выконваў Г. Купрыяновіч. За гэты час многа змянілася ў вёсцы. Жыхары вёскі жадаюць, каб і пры новым солтысе праводзілася многа карысных для вёскі мерапрыемстваў.

*Чытач з Козлікаў*

## НАША НАСТАЎНІЦА

У нашай вёсцы Коматаўцы, Беластоцкага павета, існуе гурток вясковых гаспадынь ад 14 лютага 1968 года. Старшынёю гуртка з'яўляецца настаўніца нашай школы. Добра яна працуе. Усе яе за гэта глыбока паважаюць. Кожны год падчас жніў яна арганізоўвае ў школе дзяцінец і гэтым самым дапамагае сялянам у працы. Праводзіўся ў нас кулінарны курс. Навучыліся жанчыны смачна варыць. На сходах абмяркоўваем нашыя жаночыя справы. Нядаўна на сходзе пастанавілі арганізаваць у бягучым годзе курс крою і шыцця, а таксама курс гафтавання. Штогод гучна святкуецца ў нас Дзень жанчын. Мы ўтварылі гурток самадзейнасці, якім кіруе таксама наша настаўніца. Я хацела б скласці харошую песню аб нашай добрай настаўніцы і заспяваць на мелодыю «Расцвіталі яблыні і грушы», але не выходзіць.

*Люба Мікуць, Коматаўцы*

## СУСТРЭЧА ВЕТЭРАНАЎ

6-га лютага праўленне гуртка ЗБоВіД, які дзейнічае ў квартале «Тысячагоддзе» ў Беластоку, арганізавала сустрэчу збавідаўцаў. Прысутныя ўспаміналі мінулыя гады, цяжкія гады нямецкай акупацыі, а пасля станаўленне народнай улады на Беласточчыне. Прыйшлі на гэты вечар успамінаў і маладыя людзі і супольна з ветэранамі прыемна і культурна правялі вечар. Былі арганізаваны конкурсы на найлепшае выкананне песні, гумарыстычных сцэнак, ну, і, вядома, танцы.

Усе ўдзельнікі вечара выказвалі многа ўдзячнасці арганізатарам, а таксама праўленню Беластоцкай жыллёвай спулдзельні, якая дала памяшканне і аркестр. У вечарыне прымаў удзел і намеснік старшыні праўлення БСМ Ян Шэўчык.

*Васіль Петручук*

## З ДАПАМОГАЙ ЗВЯРАМ І ПТУШКАМ

Паляўнічы гурток «Арол», які існуе ў Орлі, што на Бельшчыне, налічвае 16 членаў. Гурток правёў лоўлю жывых зайцаў, якія адсылаюцца за дэвізы ў заходнія краіны. Акрамя палявання, члены гуртка «Арол» актыўна нішчаць пасткі, якія застаўляюць на звярыну браканьеры. Зімою яны расставілі на палях кармушкі з ежай для звяроў і птушак. Знішчаюць таксама «бяспанскіх» сабак і катоў, якія прыносяць многа шкоды.

* * *

У Крывяцічах ёсць вялікая новая святліца. Адбываюцца ў ёй розныя сходы, вечарыны і т.п. У святліцы ёсць клуб «Рух» і памяшканне на бібліятэку. На жаль, бібліятэчнае памяшканне зусім пустое. Ніхто не задбаў, каб утварыць у Крывяцічах бібліятэчны пункт. Бібліятэка патрэбна для старэйшых і моладзі. Яна ў пэўнай меры ўплывала б на пашырэнне вясковай культуры.

*Ваня Кірызюк, Крывяцічы*



## СЕМ ГАЛОЎНЫХ ГРАХОЎ

*(Працяг са стар. 5).*

«Мне 19 год, а я ўжо такая нешчаслівая. Перад шлюбам Янка быў вельмі добры, ветлівы. Здавалася, няма лепшага на свеце. Цяпер ездзіць да другіх дзяўчат, сказаў мне, што перастаў мяне кахаць. Парай, якое ёсць выйсце?»

### КАХАННЕ Ў ШКОЛЬНАЙ ФОРМЕ — ЧАЦВЁРТЫ ГРЭХ

Апошні год навукі. Спаткаліся на забаве. Потым сустрэчы, кіно, кавярні...

Праз пару месяцаў ён або яна просяць парады:

«Дома лаюць мяне бацькі. У дзённіку двойкі, а неўзабаве матура. Што рабіць, «Сэрцайка», як выправіць двойкі, як падрыхтавацца да экзаменаў за такі кароткі час?»

### АШУКАНСТВА — ПЯТЫ ГРЭХ

Сябравалі паўгода. Казала, што вельмі кахае, што стане яго жонкай. Быў шчаслівы, таму рабіў усё, што яна толькі загадала. А яна ўсё больш і больш вымагала. Пайшоў у армію. Пісаў і прасіў чакаць...

Праз пару месяцаў піша горкія словы:

«Неўзабаве пазнала другога, быў з суседняй вёскі. Праз чатыры тыдні адбылося вяселле, а я нічога не ведаў, не напісала, не прызналася. Пішуць да цябе ўсе дзяўчаты і наракаюць, што іх хлопцы пакідаюць, хай жа яны прачытаюць і маё пісьмо і хай знаюць, што і яны ашуканкі».

### СЯБРОЎСКАЯ ШЧЫРАСЦЬ — ШОСТЫ ГРЭХ

Фэст. Многа моладзі. Спадабаўся. Танцавала з ім цэлы вечар. Думала аб ім цэлую ноч. А на другі дзень пабегла падзяліцца сваім шчасцем з сяброўкай. Прыходзілі лісты — чыталі разам.

У пісьме да «Сэрцайка» піша:

«Найлепшая мая сяброўка напісала да майго хлопца ліст, у якім на мяне ўсяляк напляткавала, каб толькі перапісвацца з ім самой. Да мяне перастаў пісаць, а піша да яе. Парай, як вытлумачыць аб усім, каб ён паверыў мне, а не ёй?»

### АБЕДЗВЕ — СЁМЫ ГРЭХ

У суседа прыгожая сінявокая дачка. Яшчэ ў пачатковай школе пазіралі ўкрадкай адзін на аднаго. Потым пачалі сябраваць. Аднойчы паехаў на вяселле ў суседнюю вёску. Стаў як укапаны, калі за дружку далі яму чорнавалосую стройную дзяўчыну. Іншых не бачыў, гуляў толькі з ёю. Калі вярнуўся дадому, не мог ізноў налюбавацца сінявокай. А потым ехаў да чорнавалосай. Вяртаўся і ехаў, вяртаўся і ехаў...

А ў лісце да «Сэрцайка» сумна сцвярджае:

«Па-сапраўднаму кахаў абедзве, а яны мяне пакрыўдзілі. Ні адна, ні другая не хочуць нават глядзець у мой бок, калі даведаліся, што наведваю абедзвюх. Як вярнуцца да іх, як пераканаць, што падабаюцца мне адна і другая?»

І так маглі б мы ў далейшым пералічваць нашыя «грахі». А каб не быць песімістамі, прачытайце, што піша «Валодзя»:

«Мы павінны паступаць так, каб з нас бралі прыклад іншыя, малодшыя. Сорам мне за тых, якія захоўваюцца некультурна, а нават часам не па-людску, крыўдзяць іншых, перш за ўсё дзяўчат. Іменна нам самім трэба іх выхоўваць».

А за свае ўданыя і менш уданыя парады час ад часу «Сэрцайка» атрымлівае такія лісты:

«Яшчэ раз хацела вам сардэчна падзякаваць за труд і хуткую дапамогу» і т.п.

На заканчэнне хацелася б пажадаць вам, дарагая моладзь, («Сэрцайку» таксама), каб у наступным пятнаццацігоддзі атрымлівала «Сэрцайка» больш лістаў радасных і шчаслівых, каб усе разам маглі мы цешыцца і весяліцца.

*Сэрцайка*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Pod karnawałową maską" (kubański), 2—3, „Słoń Maruda" (ang.), 4—5. „Mrok za dnia" (węgierski), 6—7.

**НАРАЎКА**

„Jak rozpętałem II wojnę światową" (polski), 3—7.

**НАРВА**

„Powrót rewolwerowca" (USA), „Zbyszek" (polski), 3—7.

**ЧЫЖЫ**

„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), „Taszkient miasto chleba" (radz.), 3—7.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Nie ma powrotu Johny" (polski), „Operacja Belgrad" (jugosł.), 3—7.

**АРЭШКАВА**

„Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), „Ostatni świadek" (polski) 6—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Gra" (polski), „Zabawa w masakrę" (franc.), 3—7.

**ОРЛЯ**

„Grzech Azizy" (ZRA), „Pali się moja panno" (czeski), 3—7,

**РАЙСК**

„Hugo i Józefina" (szwedzki), „Raj na ziemi" (polski), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Przed wojną" (jugosł.), 2—3. „Po wielkiej burzy" (szwajcarski), 4—5. „Nad jeziorem" (radz.), 6—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Rozwód z miłości" (węgierski), 2—3. „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 4—5. „Prom" (polski), 6—7.

**ЯНАЎ**

„Gang Olsena" (duński), 3—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Car Kałojan" (bułg.), 2—3. „Wołga, Wołga" (radz.), 4—5. „Okna czasu" (węgierski), 6—7.

**МЕЛЬНІК**

„Człowiek z fotografii" (jugosł.), 2—3. „Stopień ryzyka" (radz.), 4—5. „Los Golfos" (hiszpański), 6—7.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Żenia Żenieczka, katiusza" (radz.), 2—3. „Życie raz jeszcze" (polski), 4—5. „Ucieczka w kajdanach" (USA), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 3—7.

**НОВЫ ДВОР**

„Królewski błąd" (czeski), „Paragon gola" (polski), 3—7.

---

Зараз жа развітаўся з савецкімі дэлегатамі і Чэрчыль. Адправіўся ён у сваё пасольства і неўзабаве выехаў на аэрадром.

Савецкая дэлегацыя пакінула Тэгеран у поўдзень. На аэрадроме чакалі нас некалькі двухматорных пасажырскіх самалётаў. У першым вылецела група вайскоўцаў, у другім — Сталін. Мы ж чакалі, пакуль не прыйшла вестка, што ён шчасліва прызямліўся у Баку. Потым з некалькімінутнымі перапынкамі паднялася рэшта самалётаў.

Калі мы выйшлі ў Баку на аэрадром, быў там яшчэ Сталін. Стаяў ён перад аэрапортам, ужо не ў маршальскім мундзіры, а ў звычайным салдацкім шынялі, у шапцы без знакаў адрознення. Побач стаяў галоўны маршал авіяцыі Галаванаў і некалькі ваенных. Неўзабаве з'явіліся лімузіны. Сталін сеў у першую машыну каля шафёра. На заднім сядзенні размясцілася яго асабістая ахова. Рэшта хутка села ў свае машыны і картэж з вялікай хуткасцю рушыў у горад, на чыгуначны вакзал, дзе чакаў ужо спецыяльны поезд, складзены з доўгіх і цяжкіх вагонаў-салонаў.

Па дарозе ў Маскву, прыпамінаю сабе, была толькі адна стаянка — у Сталінградзе. Мы засталіся ў вагоне, у той час, калі Сталін у суправаджэнні блізкіх яму асоб зрабіў паездку па горадзе. На чацвёрты дзень раніцай прыбылі мы ў Маскву. Поезд наш падставілі на пусты перон электрычкі паміж Беларускім і Савельеўскім вакзаламі. Як толькі поезд спыніўся, Сталін выйшаў з вагона, сеў у чорны лімузін, які пад'ехаў проста на перон, і паехаў у Крэмль.

Толькі на наступны дзень, 7 снежня, у савецкай прэсе з'явілася інфармацыя аб праведзенай у Тэгеране канферэнцыі трох дзяржаў; былі апублікаваны тэксты дэкларацый і іншых афіцыяльных паведамленняў.

Дагэтуль ніхто ў Савецкім Саюзе, апрача адносна невялікай групы людзей, не ведаў, што на працягу чатырох дзён Вялікая Тройка праводзіла перагаворы ў Тэгеране.

## ЭФЕКТЫ КОНКУРСУ

Па ініцыятыве Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа, прэзідыума ВРН і «Газеты Беластоцкай» у 1970 годзе ўжо 8-ы раз быў арганізаваны конкурс на «Найчысцейшае і самае эстэтычнае мястэчка і вёску».

У гэтым конкурсе кожны год прымаюць удзел гарадскія рады нарадовыя Бельшчыны. У мінулым годзе дабіліся добрых вынікаў гарадскія рады нарадовыя ў Бельску Падляшскім і Бранску. Жыхары Бельска ў рамках конкурсу выканалі грамадскага чыну на 945 тысяч зл. Будаваліся маставыя і тратуары на вуліцах Млыновай, Кавальскай, Міцкевіча, Відоўскай, Варынскага і Замкавай. Былі зроблены кветнікі, клумбы, пляцы для дзіцячых гульняў і т.д. Найбольш папрацавалі пры гэтым блёкавы камітэт № 5, работнікі прэзідыума ПРН, пажарнай каманды, ПОМ-у, «Руху» і моладзь агульнаадукацыйнага ліцэя і эканамічнага тэхнікума.

Вартасць грамадскага чыну на аднаго жыхара Бельска складае суму 94 зл.

У Бранску грамадскім чынам выканана розных прац на суму 352 тыс. зл. На аднаго жыхара выпадае там грамадскай працы на 121 зл. Вялікія заслугі ў грамадскай працы маюць работнікі прэзідыума МРН, ГС, СОП, ОРМО, МО, школы і іншыя.

*Уладзімір Кучынскі, Бельск Падляшскі*

## «НЕБЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА...»

Пад такім загалоўкам у № 6 (780) «Нівы» з датай 7-га лютага была змешчана інфармацыя. У ёй ёсць адзін няпраўдзівы сказ: «Далей няма бруку, і тут дарога выбоістая». Гэтыя словы не былі напісаныя аўтарам інфармацыі. За гэтую рэдакцыйную недакладнасць сардэчна перапрашаем. (мх)

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7000 E-3

